# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

15.11.12-21.11.12 г.


## КАМУ Ў МІНСКУ



САПРАЎДЫ ЖЫЦЬ ДОБРА?

СТАР. 4–5

## “ВЯРШКІ” ГРАМАДСТВА

СКУПЛЯЮЦЬ ДАРАГОЕ ФУТРА



СТАР. 6-7

# ДЗІЎНЫЯ ВЫБУХІ

У Віцебску зноў адбылося надзвычайнае здарэнне, якое міжволі прымушае прыгадаць знакамітую “справу аб тэрактах”.

## І ПОМНІК ГЕРОЯМ 1812 ГОДА…



Тэракт быццам бы адзін, а выбухі працягваюцца…

Уначы з 11 на 12 лістапада ў сацыяльных сетках з’явіўся шэраг паведамленняў пра выбух каля будынка абласнога КДБ. Таксама сцвярджалася, што пасля гэтага міліцыянты масава затрымлівалі маладзёнаў у цёмнай вопратцы з капюшонам.

На раніцу была агучана афіцыйная версія: *“11 ноября 2012 года в 18.48 у здания управления КГБ по Витебской области произошел подрыв примитивного самодельного пиротехнического устройства, повлекший повреждение двух окон административного здания. По предварительным оценкам, устройство представляло собой картонный или пластмассовый тубус, начиненный 50–70 граммами пиротехнической смеси и помещенный в металлическую банку ёмкостью 0,25–0,33 л без поражающих элементов. В действие приведено огневым способом (путем поджога)”.*

> Выбухі, якія прагрымелі ў Віцебску ў 2005 годзе, таксама афіцыйна расцэньваліся як хуліганства.

Цікава, што міліцыянты, якія акружылі будынак КДБ, тлумачылі гэта тым, што можа ляснуцца… помнік героям вайны 1812 года. Яго нібыта падмыла вада. Аднак гэты сцэнар “пратрымаўся” літаральна пару гадзін.

Тым часам жыхары суседніх дамоў распавялі праваабаронцу Паўлу Левінаву, што ад выбуху ў іх ледзь ці не вылецела шкло з шыбаў. Адна пажылая жанчына наогул падумала, што пачалася вайна.

Збор сведчанняў для Левінава закончыўся затрыманнем. Праўда, неўзабаве яго адпусцілі, выпісаўшы штраф… за парушэнне правілаў дарожнага руху.

Цяпер КДБ сцвярджае, што затрыманы тры чалавекі. Адзін з іх раней дазваляў сабе па тэлефоне *“некорректные высказывания в адрес органов власти”*.

Нягледзячы на тое, што ад выбуху пацярпела дзяржаўная ўстанова (ды не абы якая!), крымінальная справа ўзбуджана не па артыкуле Крымінальнага кодэкса “Тэракт”. Пакуль што дзеянні невядомага (-ых) чэкісты кваліфікуюць як хуліганства.

У звязку з гэтым адразу згадваецца, што выбухі, якія прагрымелі ў Віцебску ў 2005 годзе, таксама афіцыйна расцэньваліся як хуліганства. Нават пры тым, што падчас аднаго з іх пацярпела каля паўсотні чалавек. Потым падзеі, як вядома, разгортваліся трагічна: чарговае “хуліганства” ў Мінску 3 ліпеня 2008 года і, нарэшце, тэракт у сталічным метро, вынікам якога сталі 15 ахвяр.

## ПАДОБНА НА ТЭРАКТ У МЕТРО?

Усе гэтыя злачынствы судом былі аднесены на рахунак віцяблян Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Дарэчы, сярод эпізодаў, якія інкрымінаваліся першаму з іх, хапала і розных дробных выбухаў.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## ПОМНІК АНАТОЛЮ БЕЛАМУ

17 лістапада да гадавіны смерці вядомага беларускага краязнаўца і стваральніка ўнікальнага музея ў Старых Дарогах сваякі маюцьнамер адкрыць помнік грамадскаму дзеячу, а таксама наведаць мясцовыя могілкі ды распавесці пра будучыню прыватнай калекцыі Анатоля Белага, паведамляе baj.by.

Для ўшанавання памяці бацькі са Злучаных Штатаў Амерыкі прыехала яго дачка. Вольга Белая запрашае журналістаў і ўсіх неабыякавых людзей да будынка музея ў Старых Дарогах (вул. Садовая, 52) у суботу 17 лістапада а 13 гадзіне.

Анатоль Белы нарадзіўся 10 снежня 1939 года ў Старых Дарогах Мінскай вобласці. Беларускі грамадска-культурны дзеяч, вучоны, калекцыянер, стваральнік прыватнага мастацкага музея ў горадзе Старыя Дарогі. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1967). З 1995 года выкладаў у БДУ. Старшыня грамадска-асветніцкага клуба “Спадчына” (1984). Член Саюза мастакоў Беларусі (1995). Член Саюза беларускіх пісьменнікаў (1999). Прафесар, дыпламант Міжнароднага Кембрыджскага цэнтра (Англія, 1999). Член Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі (Мінск, 2005).

# ШТО СТАНЕ З ВЫТВОРЧАСЦЮ БЕЗ ЛАЙДАКОЎ І П’ЯНІЦ?

Кіраўнік дзяржавы прапаноўвае аптымізаваць нашу прамысловасць і сельскую гаспадарку шляхам звальнення “разносчыкаў” п’янства і гультайства. Наколькі гэта дальнабачны крок, разбіралася “Тут і цяпер”.

**ВІКТАР МАРЦІНОВІЧ, ЖУРНАЛІСТ І ПІСЬМЕННІК:**

### “КАКТУС ПІЁТЛЬ У БЕЛАРУСІ НЕ РАСЦЕ…”.

— Праблемы лайдакоў у нас няма, паколькі большасць беларусаў пастаўлены ў такія ўмовы, што вымушаны працаваць на дзвюх-трох месцах. Прычым, значна больш за сваіх суседзяў, тых жа ўкраінцаў, літоўцаў… Проста для таго, каб было на што піць. Беларусы вымушаны працаваць. Вось п’янства — гэта праблема. Але, здаецца, пазбавіцца яго ў існуючых умовах немагчыма, бо калі ты не п’еш, то становішся сацыяльным ізгоем.

П’янства настолькі ўкаранілася ў нашу культуру, што, калі мы ўсе разам кінем піць, нам прыйдзецца выдумляць нейкую новую культуру і новую краіну. Амерыканскія індзейцы, напрыклад, ядуць кактус піётль для таго, каб сацыялізавацца — патрапіць у той стан, які лічыцца сацыяльна прыдатным для камунікацый. У іншых краінах, напрыклад, у М’янме, людзі жуюць кару дрэва, якая робіць іх вусны чырвонымі, і такім чынам камунікуюць. Ва Украіне людзі ядуць семкі сланечніка і не бачаць у гэтым ніякай праблемы. Мы, беларусы, камунікуем праз алкаголь. Гэта за апошнія стагоддзі стала нашай асноўнай звычкай. Без чаркі на стале ў Баршчэўскага, Караткевіча і іншых беларускіх выбітных празаікаў героі размаўляць не пачынаюць. Таму тут я не бачу праблемы. Калі мы адмовімся ад п’янства, трэба будзе шукаць нейкі іншы замянняльнік. А кактус піётль у Беларусі не расце…

**АЛЕСЬ ПУШКІН, МАСТАК:**

### “ТРЭБА АДКРЫВАЦЬ БОЛЬШ ПТВ”.

— Гэта сапраўды сур’ёзная праблема. Я жыву ў сельскай мясцовасці, і п’янства тут — найактуальнейшая рэч. Нават няма спецыялістаў, якія маглі б зрабіць каменную кладку, выканаць работу па дрэве, шалёўцы: гэтыя людзі сёння пераехалі жыць у гарады. Больш-менш нармальны чалавек, які ўмее працаваць і непітушчы, паехаў на працу за межы Беларусі. Гэтую праблему можна вырашыць — стымуляваць любога маладога чалавека, які заканчвае вясковую школу (сельскія школьнікі не хочуць паступаць у ВНУ).

Жывучы ў мястэчку Бобр, я прыйшоў да такой высновы: у населеных пунктах, дзе ёсць хаця б тры тысячы жыхароў, трэба абавязкова адкрываць ПТВ, якія б рыхтавалі муляроў, чырванадрэўшчыкаў, тынкоўшчыкаў. Неабходна зацікаўліваць маладога чалавека, які не хоча атрымліваць вышэйшую адукацыю, вучобай па месцы жыхарства. Чым больш вучылішчаў мы будзем адкрываць, тым менш будзе п’янства і лайдацтва. Сёння нават печніка складана знайсці. У мяне адзін клаў печку і запіў. Прыйшлося шукаць іншага. А была б хоць пара маладых людзей, якія могуць класці печкі, плітку, праблему можна было б вырашыць хутчэй. Уяўляеце, калі б адкрылі вучэльню, дзе вучаць крыць гонту ці правільна накрываць дах саломай? Трэба адрадзіць тое, што страчана. Напрыклад, бандарнае мастацтва. Чаму б пры лясгасах не адкрыць маленькія майстэрні? Хай там будзе 10 вучняў, якія б выраблялі бочкі ці дэкаратыўныя дзежкі для садоў, клумбаў. Не хапае дызайнераў-фларыстаў — чаму б не адкрыць курсы пры кожным СВК? Вось такія ў мяне вымалёўваюцца шляхі выратавання краіны ад п’янства і лайдацтва.




*Такіх працаўнікоў у нас не так часта, як хацелася б, і сустрэнеш*

**ІГАР СІМБІРОЎ, МУЗЫКА, БАРД:**

### “ГАЛОЎНАЕ — НЕ ЯК П’ЮЦЬ, А ЧАМУ П’ЮЦЬ”.

— Я ўвогуле нясхільны дэманізаваць гэтую праблему, бо п’янства ўласціва ўсяму чалавецтву, калі ўспомніць яго гісторыю. І справа не ў тым, што людзі п’юць, а ў тым — чаму яны п’юць. Чэхі і немцы, па статыстыцы, п’юць не менш за беларусаў. Але ж яны п’юць, як мне здаецца, ад паўнаты жыцця. Нашы ж людзі ў асноўным п’юць ад бязвыхаднасці, і з-за адсутнасці іншых сродкаў атрымання радасці. Таму перш чым так заяўляць, мне здаецца, трэба падумаць аб тым, што менавіта ты як кіраўнік краіны спрычыняешся да п’янства свайго народа і правакуеш гэтую з’яву. Але ёсць і іншы бок: я не думаю, што мы атрымалі б Сыса, Караткевіча, Стральцова ды іншых творчых людзей, калі б у іх жыцці не было б таго ж п’янства.

**АЛЕНА ЛАПІЦКАЯ, ПЕНСІЯНЕРКА (СЛУЦКІ РАЁН):**

### “А ХТО Ж ТАДЫ БУДЗЕ РАБІЦЬ?!”

— Дык каб не гэтыя нашы завалякі, вечна п’яныя, на вёсцы ўвогуле не было б каму рабіць! Ім трэба дзякуй сказаць, а не ганьбіць іх. Усе ж разумныя з’ехалі ў гарады. На сяле засталіся адны п’яніцы. Дык калі іх усіх выгнаць з працы, хто ж тады будзе араць ды сеяць?! Хіба сам Лукашэнка?

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**АФІЦЫЙНА**

### УДАРЫМ ПА П’ЯНІЦАМ І ГУЛЬТАЯМ!

На сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта **Аляксандр Лукашэнка** адзначыў, што *«ў Беларусі прывыклі думаць, што ў краіне высокакваліфікаваныя спецыялісты і добрасумленныя работнікі. Але давайце паглядзім, што ў нас на самай справе: прадукцыйнасць працы на нашых прадпрыемствах прыкметна ніжэйшая, чым у перадавых замежных кампаніях, а матэрыялаёмістасць і энергаёмістасць у сваю чаргу вышэйшыя».*

# ДЗІЎНЫЯ ВЫБУХІ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Любоў Кавалёва, маці пакаранага смерцю Уладзіслава, заявіла Радыё Свабода:

— Гэта ўсё дужа падобнае да справы пра выбух у метро... І выбухі адбываюцца ўжо пасля расстрэлу хлопцаў.

Яшчэ адна відавочная паралель — справа аб падпале аддзела КДБ у Бабруйску ў кастрычніку 2010. За гэта па 7 гадоў пазбаўлення волі атрымалі мясцовыя анархісты, якія шпурнулі ў будынак дзве бутэлькі з запальнай сумессю.

Такі ж інцыдэнт меў месца на мінулым тыдні ў Мінску,аднак гэтым разам невядомыя атакавалі амбасаду Літвы.

А 5 лістада выбух адбыўся на Гарадзеншчыне непадалёк дзяржаўнай мяжы. КДБ падазрае, што тамака “пахуліганілі” нелегальныя мігранты.

Ці не падаецца вам, што апошнім часам у нас здараецца зашмат розных выбухаў для мірнай краіны? Улада паранейшаму сцвярджае, што адно з галоўных яе дасягненняў — гэта бяспека грамадзян. Але ж атмасфера ў Беларусі ўсё больш набліжаецца да выбуховай…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# СТАТЫСТЫКА: ЗМРОЧНАЯ ЦІ ВЯСЁЛКАВАЯ?

Нядаўнія ацэнкі два сацыялагічных інстытутаў — дзяржаўнага і незалежнага – адносна эканамічнага ўзроўню насельніцтва сур’ёзна разыходзяцца.




У Нацыянальнага статыстычнага камітэта статыстыка нейкая вясёлкавая, а ў НІСЭПД — хутчэй змрочная.

## БЕЛСТАТ: ПАБЕДА НАД КРЫЗІСАМ

**Па апублікаваных дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, каля 70% сем’яў у Беларусі ацэньваюць узровень свайго матэрыяльнага становішча як сярэдні і вышэй сярэдняга.**

Як паведаміў Белстат па выніках іх абследавання, больш за палову (61,1%) хатніх гаспадарак ацэньваюць сваё матэрыяльнае становішча як сярэдняе, 25,1% — некалькі ніжэй сярэдняга і 5,1% — некалькі вышэй сярэдняга. Кожная другая хатняя гаспадарка лічыць сваё матэрыяльнае становішча ў параўнанні з мінулым годам стабільным, а больш за чвэрць ўдзельнікаў абследавання станоўча ацэньваюць змяненні ў сваім матэрыяльным становішчы. Доля хатніх гаспадарак, упэўненых ў паляпшэнні свайго матэрыяльнага становішча ў параўнанні з мінулым годам, звязваюць гэта з ростам даходаў ад працоўнай дзейнасці — 44,4%, з павелічэннем пенсій і дапамог — 30,3%, са з’яўленнем новай або дадатковай крыніцы працоўных даходаў — 20,5%.

Пры гэтым, па дадзеных Белстата, каля 55% удзельнікаў праведзенага абследавання чакаюць захавання свайго ўзроўню дабрабыту. 34,8% рэспандэнтаў лічаць, што іх матэрыяльны дабрабыт ў 2013 годзе палепшыцца. Доля хатніх гаспадарак, якия прагназуюць магчымае пагаршэнне свайго матэрыяльнага становішча ў найбліжэйшай будучыні, складае 10,6%.

У апытанні прынялі ўдзел 5,5 тысяч хатніх гаспадарак Беларусі.

## НІСЭПД: КРЫЗІС ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЎСЯ

Вынікі аналагічнага апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў адрозніваюцца ад такога ж даследвання Белстата. Вядома, НІСЭПД таксама канстатуе, што колькасць тых, чыё матэрыяльнае становішча за апошнія тры месяцы пагоршылася, зменшылася на 7% і на столькі ж зменшылася колькасць тых, хто лічыць, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе (64, 1% супраць 71,4% , у снежні было 81,5%).

Некалькі вырасла колькасць тых, хто лічыць, што «ў цэлым становішча спраў у нашай краіне развіваецца ў правільным кірунку» (34,1% супраць 32, 4%, у снежні 25,6%).

Аднак, як адзначае НІСЭПД, у цэлым пазітыўнае «эканамічнае самаадчуванне» паранейшаму значна адстае ад негатыўнага: калі паляпшэнне свайго матэрыяльнага становішча за трэці квартал адзначылі 14,7%, то пагаршэнне — 25%, не лічаць, што эканоміка знаходзіцца ў крызісе 25,8%, а 64,1% з гэтым згодны; з тым, што «стан рэчаў у нашай краіне развіваецца ў правільным кірунку», згодныя 34,1%, а не згодныя — 47,4%.

Таксама, па апытаннях НІСЭПД, такая «паўзучая стабілізацыя» ставіць пад сумнеў будучы дабрабыт у вачах многіх беларусаў: 27,8% апытаных лічаць, што «сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў бліжэйшыя гады пагоршыцца», і толькі 18,4% — што палепшыцца.

*Заканчэнне на стар. 7*

# КАМУ Ў МІНСКУ

**“Колькі можна ўжо?! Чаго яны ўсе сюды пруцца — мёдам намазана?! Мінск не гумовы! Калгас, гоў хоўм!” Будзем шчырыя, паважаныя жыхары і госці сталіцы, вы гэта сто разоў чулі. А калі з’яўляецеся “мінчуком у пятым пакаленні”, то мо і самі казалі.**

Кватэрнае пытанне, па ўсім відаць, сапсавала не толькі масквічоў — куды толькі знікае славутая беларуская талерантнасць у гаворках пра “панаехаўшых”! Ці салодкі насамрэч “мёд” для тых, хто жадае жыць у Мінску, высвятляла **“Тут і цяпер”.**

## ВАРЫЯНТ ПЕРШЫ: ПРАБЛЕМАТЫЧНА

“Я здымаю кватэру ўжо 10 год; уласна кажучы, адразу пасля заканчэння ўніверсітэта як адчула смак самастойнасці, так і не прамяняла яго на бацькоўскую падтрымку, — расказвае перакладчыца **Кацярына**. — Апошнія 5 год жыву ў адной гаспадыні. Але, шчыра прызнаюся, падумваю аб тым, каб з’ехаць. І справа не толькі ў тым, што кватплата расце: пачыналася ўсё са 100 доларaў, бо “па знаёмстве”, але ўжо праз год стала 100 еўра, потым 150, 200, цяпер ужо 300 (я ж выйшла замуж і “пабагацела”) плюс камунальныя. Проста кожная сустрэча з гаспадыняй — гэта не толькі перадача грошай, а і некалькі выкрасленых з жыцця гадзін “шчырых размоў” аб тым, як ёй цяжка адной гадаваць сына. Пры тым яна штогод адпачывае за мяжой, а мы з мужам не можам сабе гэта дазволіць, бо адкладваем грошы на ўласную кватэру. Калі прапаноўваем гаспадыні напалам замяніць каналізацыйныя трубы ці ўсталяваць дамафон, то таксама штораз чуем яе галашэнні… Да таго ж яна дазваляе сабе заходзіць “у госці” без папярэджання або прысылае сына забраць лыжы, нейкія адвёрткі ці старыя каструлі. А калі мы прапаноўваем вывезці ўсё гэта адразу, адмаўляецца, бо “захоўваць няма дзе, пацярпіце”. 6 год цярпім. Надакучыла. Канечне, раён ціхі, і з суседзямі збольшага пашанцавала, але жыць пастаянна пад наглядам чужых вачэй!.. Ды мы лепш да маіх бацькоў з’едзем — хоць на найме кватэры сэканомім”.



*Грошай на сваё жыллё ў сталіцы далёка не ва ўсіх жадаючых*

“Перадайце гэтай Каці, што ёй пашанцавала, — паблажліва ўсміхаецца студэнт-пяцікурснік **Ігар**. — 2-3 кватэры за 10 год памяняць і з гаспадыняй пару разоў на месяц бачыцца — гэта казка! А ў 5 пакояў за год засяліцца і з’ехаць, суседнічаючы то са звар’яцелай бабулькай-каштатніцай, то з ціхім і не вельмі алкаголікам, то з “напарнікам”-евангелістам слабо? Усякае было: хто выпіць за кампанію прымушаў, хто ў маіх рэчах корпаўся, хто знянацку замок у дзвярах мяняў… Аб’ектыўна я не магу сабе дазволіць плаціць больш чым 100 доларaў за найм жылля, а кампаніі з хлопцаў-студэнтаў зняць кватэру нашмат цяжэй, чым дзяўчатам, вось і даводзіцца шукаць кампраміс паміж прымальным коштам і адэкватнымі гаспадарамі…”.

> **Значыць, тым, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, далучыўся да чаргі сёлета і ўжо бачыць у салодкіх снах уласную кватэру, засталося пачакаць… усяго 19 з хвосцікам гадоў.**

На дадзены момант, як паведамляюць сталічныя агенцтвы нерухомасці, сярэдні кошт арэнды 1-пакаёвай кватэры ў Мінску вагаецца ў межах 180—250 доларaў (хоць ёсць і прапановы за 500—700 доларaў), 2-пакаёвай — 220—350 доларaў, 3-пакаёвай — 250—400. Вопытныя “арандатары” сцвярджаюць, што ў рэальнасці цэнавая планка на 20—30 адсоткаў вышэйшая. Нават пры сярэдняй зарплаце мінчан у 5,176 млн рублёў (звесткі за верасень 2012 года) дазволіць сабе жыць у наёмных кватэрах сёння могуць далёка не ўсе “карэнныя” і “прыезджыя”.

## ВАРЫЯНТ ДРУГІ: ДОЎГА

“Мы сталі ў чаргу на жыллё як маладая сям’я адразу пасля рэгістрацыі шлюбу — у студзені 2009, — прыгадвае **Алена**. — Знаходзіліся недзе ў канцы саракатысячных нумароў. За гэты час у нас нарадзілася дзіця — свая кватэра цяпер тым больш патрэбна. Нядаўна з цікавасці на сайце гарвыканкама http://minsk.gov.by/ru/och/ у анлайне праверыла, наколькі прасунулася чарга — зараз мы, аказваемся, знаходзімся ў сярэдзіне 36 тысячы. За тры гады наблізіліся да ўласнай кватэры ажно на тры тысячы чалавек. Крута! З такімі тэмпамі праз 30 год, глядзіш, нашы дзеці ці ўнукі дачакаюцца той чаргі. Праўда, калі “пацягнуць” працэнт крэдыту на будаўніцтва.

Дарэчы, сёння будаўніцтва свайго ўласнага кута ў Мінску чакаюць (значацца ў выканкамаўскай чарзе) 270 тысяч чалавек. І гэта пры тым, што, паводле слоў намесніка прэм’ер-міністра Беларусі **Анатоля Калініна**, з пачатку года мінская чарга скарацілася на 12 тысяч чалавек: іх проста выключылі са спісаў, бо не было больш законнай падставы там знаходзіцца.

У апошнія гады дзяржаўны план, даведзены сталічным забудоўшчыкам (не менш як 1 мільён квадратных метраў жылля), выконваецца са скрыпам. І ўсё ж такі новыя кварталы на карце горада з’яўляюцца, чэргі рухаюцца наперад. Прыкладам, у першай палове 2012 года, як паведамляе БелТА, у Мінску пабудавана 6 822 кватэры. Аптымістычна акруглім да 7 тысяч і паверым, што за другое паўгоддзе тэмпы будаўніцтва не знізяцца. Тады чарга зрушыцца на 14 тысяч сем’яў у год. Значыць, тым, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, далучыўся да чаргі сёлета і ўжо бачыць у салодкіх снах уласную кватэру, засталося пачакаць… усяго 19 з хвосцікам гадоў. І гэта без уліку зніжанай нормы патрэбы ў жыллі для мінчан (10 квадратных метраў на чалавека, а не 15, як па ўсёй Беларусі) і без разгляду фінансавага боку пытання: цана 500 доларaў за квадратны метр, у сярэднім 80-працэнтны аб’ём крэдытавання і 20-працэнтная стаўка па крэ-

# ЖЫЦЬ ДОБРА?

дыце.

Праўда, з высокіх трыбун прагучала абяцанне да 2015 года пабудаваць у Мінску 3000 так званых арэндных кватэр — тыя ж здымныя, але ў дзяржавы і больш танныя, чым у прыватнікаў. Толькі наўрад ці гэта выратуе двухмільённы горад ад ажыятажнага попыту і чэргаў на жыллё. Хоць, зразумела, можна спадзявацца на добрага цара, чакаць вяртання 5-працэнтных крэдытаў і верыць у казкі пра малочныя рэкі з кісельнымі берагамі. Было б жаданне.

## ВАРЫЯНТ ТРЭЦІ: ДОРАГА

Калі хто па неасцярожнасці абмовіцца, што стаіць у чарзе на жыллё, добрыя людзі навокал адразу пачнуць раіць кінуць глупства, жвава рухаць усімі канечнасцямі, зарабляць грошы і будавацца самому, без аглядкі на дзяржаву.

"Пасля продажу бацькоўскай кватэры ў райцэнтры я шчыра лічыў сябе даволі забяспечаным чалавекам, — дзеліцца менеджар па продажах **Зміцер**. — Амаль 30 тысяч долараў на банкаўскім рахунку — чым не база для планаў на ўласнае жыллё ў сталіцы? Да таго ж пасля леташняй дэвальвацыі я быў перакананы, што цэны на нерухомасць крыху ўпадуць. Ага, куды там!

Гаспадары ўбогіх мінскіх хрушчовак заламілі за сваё "шчасце" такія цэны, што мы з жонкай толькі пальцамі ля скроні круцілі. Улезлі нават у камерцыйнае будаўніцтва, але там трэба было браць валютны крэдыт, які ці не ў апошні момант "замарозілі". Добра, што мы паспелі выскачыць з гэтай канторы… У выніку амаль праз год актыўных пошукаў чыста выпадкова набылі кватэру ў Бараўлянах — проста 1-пакаёўка больш нікому не была патрэбна, а нас на дадзены момант задавальняе. А такіх цэн ужо і там няма".

Паводле звестак рыэлтарскіх кампаній, сярэдні кошт квадратнага метра другаснага жылля ў Мінску за паўгода вырас на 0,3—0,7%, або ад 20 да 40 долараў (традыцыйна самыя танныя метры — у чатырохпакаёвых кватэрах, а самыя дарагія — у аднапакаёвых), прычым другаснае жыллё ў некаторых раёнах даражэйшае за новабудоўлі.

Але можна "ўскочыць" і ў камерцыйнае будаўніцтва — як тых дамоў, узвядзенне якіх толькі пачынаецца, так і тых, што ўжо амаль здадзены. Кошт пытання, у залежнасці ад раёна і кампаніі-забудоўшчыка ці агенцтва нерухомасці, складае ад 7,5 млн рублёў за метр у аддаленым ад цывілізацыі "спальніку" да 3000 умоўных адзінак за кожны "элітны квадрат". Ці многія са "старых" і "новых" мінчан гатовы сёння аддаваць два і больш сярэднебеларускія заробкі за метр будучага жылля? Агульная ж сума вагаецца ў межах ад (грамадзян са слабай нервовай сістэмай просім заплюшчыць вочы)… 34 тысяч долараў (за 1-пакаёўку ў аграгарадку Сеніца) да 1,69 млн! Долараў, зразумела.

**Паводле звестак Мінскага гарадскога агенцтва па дзяржрэгістрацыі і зямельным кадастры за 2010 год, па дзве кватэры ва ўласнасці маюць больш як 55 тысяч мінчан, па тры — амаль 5,5 тысячы, па чатыры — 742 чалавекі, па пяць — 168, па шэсць і больш — 138 чалавек.**

## ВАРЫЯНТ ЧАЦВЁРТЫ: АМАЛЬ НЕВЕРАГОДНА

Некаторыя, як гераіня фільма "Масква слязам не верыць", шчасце па кавалачках кожны год збіраць нязгодныя — трэба адразу і цалкам. Таму многія (вы будзеце здзіўлены, але сапраўды многія!) беларусы шчыра спадзяюцца выйграць кватэру ў латарэю. Дробязі, што ў большасці атрымліваецца, як і ў тым кіно, "двойчы па рублю" — "вось людзі ж выйграюць, значыць, і мне можа пашанцаваць!" — даводзіць мне **знаёмая пенсіянерка**, беручы ў банку на здачу латарэйныя квіткі.

У беларускіх латарэях кватэры сапраўды час ад часу служаць прызамі. Так, за ўвесь час існавання "Суперлато" было разыграна крыху больш за 100 аднапакаёвых кватэр у Мінску. На жаль, на момант падрыхтоўкі матэрыялу карэспандэнту **"Тут і цяпер"** ні з кім са шчаслівых уладальнікаў сталічнай нерухомасці сустрэцца не ўдалося. Ды і што такое гэтая сотня кватэр для 270-тысячнай мінскай чаргі? Менш як паўпрацэнта, так, статыстычная хібнасць.

**Амаль 90 тысяч сем'яў чакаюць сваёй чаргі больш за 10 гадоў, 44 тысячы — больш за 15, і каля 32 тысяч — больш за 20 гадоў.**

З гэтага ж разраду — варыянт атрымаць сталічную кватэру ў якасці ўзнагароды, скажам, за перамогу на конкурсе прыгажосці (так пашанцавала пакуль што толькі "Міс Беларусь-2008" Вользе Хіжынковай), выйгрыш на "Еўрабачанні" (ільготны крэдыт для лепшага на гэтай ніве артыста Дзмітрыя Калдуна не лічыцца) ці залатым алімпійскім медаль (колькасць выдзеленых спартсменам кватэр у некалькі разоў меншая за "атракцыён шчодрасці" ад "Суперлато").

А яшчэ можна спадзявацца на больш таннае жыллё ў гарадах-спадарожніках, на пакінутую знянацку ў спадчыну кватэру і на тое, што некаторыя прадпрыемствы па-ранейшаму даюць службовае жыллё… Або ў дылеме "Жыць ці не жыць у Мінску", не чакаючы літасцей ад сталіцы, забяспечыць сябе жыллём у родным населеным пункце. Напрыклад, пакуль паўзе жыллёвая чарга ў Мінску, Віцебскі гарвыканкам запрашае да будаўніцтва 1—3-пакаёвых кватэр чаргавікоў 2007—2008 гадоў. А ў Магілёўскай вобласці пасля сёлетняй "чысткі" спісаў чарга на жыллё скарацілася ўдвая.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**



*Заветны ключ застаецца проста заветным*

**ДЭТАЛЁВА**

**Паводле афіцыйнай статыстыкі, на 1 студзеня 1999 года ў паляпшэнні жыллёвых умоў мелі патрэбу больш як 100 тысяч мінскіх сем'яў (пры агульнай перапісанай колькасці беларускага насельніцтва 10,045 млн чалавек).**

**На 1 верасня 2012 года, па аператыўных звестках Белстата, колькасць беларусаў склала ўжо "ўсяго" 9,459 млн чалавек. Чарга на жыллё ў Мінску ў той жа час вырасла больш чым у 2,5 разу, бо адзіны беларускі горад з метро за згаданы час "прырос" на 200 тысяч жыхароў.**

**Толькі летась насельніцтва Мінска павялічылася на 21 тысячу чалавек, з іх 18,2 тысячы "панаехалі" з іншых рэгіёнаў і краін. На 1 студзеня бягучага года колькасць насельніцтва Мінска складала 1 млн 885,1 тысячы чалавек, або 19,9% жыхароў Беларусі.**

# “ВЯРШКІ” ГРАМАДСТВА СКУПЛЯЮЦЬ ...ФУТРА

Падчас крызісу хтосьці кладзе зубы на полку, а хтосьці скупляе норкавыя вырабы за ...5000 “зялёных”.



Каму дарагія футры, а каму дацягнуць б да зарплаты

## ДЗЯЎНАЯ ЧАРГА

Нядаўна ў вядомым сталічным выставачным цэнтры прайшоў кірмаш «Свет скуры і футра». Наплыў наведвальнікаў перайзышоў усе чаканні. У першыя дні ў некаторых павільёнах апошнія выстройваліся ў чэргі на прымерку футэрак і кажухоў з натуральнага футра, а прадаўцы не паспявалі ўдзяляць увагу ўсім жадаючым. Прыпаркаваць машыну каля выставачнага цэнтра таксама было праблематычна — вольнага месца на паркоўцы трэба было яшчэ дачакацца.

Дарэчы, уваходны білет каштаваў смешныя грошы — 5000 беларускіх рублёў.

Анансуючы футравы вернісаж, арганізатары сцвярджалі, што многія вырабы можна будзе набыць па аптовых цэнах. Дыяпазон цэн, на самай справе, быў вялікі і стартаваў прыкладна з 300 умоўных адзінак. За 650-1200 долараў можна было купіць кажушок

**Італьянскія боты тут чамусьці каштавалі больш, чым у аднайменнай фірмовай краме.**

з шыншылы, за 450 — з бабра, прыкладна столькі ж (ці крыху танней) каштавалі футравыя камізэлькі. За некаторыя кажушкі з норкі прасілі “усяго” каля 5 тысяч долараў.

Але кошты мала каго спынялі. Наведвальнікі выставы не толькі прыцэньваліся і мералі, але і куплялі (!) упадабаныя прадметы раскошы. Хтосьці пакідаў задатак і адкладваў шубкі на заўтра, а хтосьці разлічваўся адразу і сыходзіў, задаволены пакупкай. Варта заўважыць, што з вялікімі пакетамі з выставачнага цэнтра людзей выходзіла нямала.

Сваімі коштамі здзівіў Віцебскі футравы камбінат. Напрыклад, больш стыльныя кажушкі ад італьянскіх і іншых імпартных вытворцаў каштавалі танней, чым беларуския.

На выставе можна было набыць не толькі футравую вопратку, але і абутак. Праўда, напрыклад, італьянскія боты тут чамусьці каштавалі больш, чым у аднайменнай фірмовай краме. Прычым розніца ў цане была не такая ўжо і маленькая...

Публіка на выставе была самая розная. Прыходзілі і дамы ў норкавых манто з прэзентабельнымі спадарожнікамі, і юныя паненкі ў джынсах.

## КАМУСЬЦІ СУП ВАДКІ, А КАМУСЬЦІ ЖЭМЧУГ ДРАБНАВАТЫ

Здавалася б, яшчэ пару месяцаў назад стужкі навін мільгацелі паведамленнямі аб тым, што беларусы з самай раніцы выстройваюцца ў чэргі за сацыяльным малаком і іншымі прадуктамі па зніжаных коштах. А тут — хлоп — і чэргі за норкай, каракулем і шыншылай!

Растлумачыць такія парадоксы часу мы папрасілі вядомага эканаміста **Леаніда Заіку**.

*"Па-першае, не будзем зайздросціць тым, хто ўсё ж такі набыў футра,* — адразу заўважыў Леанід Фёдаравіч. — *Па-другое, асноўныя пакупнікі, напэўна, усё-такі жанчыны, бо наўрад ці знойдзецца шмат мужчын, якія пагодзяцца добраахвотна вынуць з кішэні 4,5 тысячы долараў на адзенне...*

*Але што тычыцца коштаў, то ў Мінску прыкладна 5 адсоткаў насельніцтва мае даход больш за 800 долараў на чалавека ў сям'і. То бок, калі ў такой сям'і жонка месяц-другі пакорміць мужа бульбай з капустай, то цалкам зможа назбіраць на футра. Таму, калі ўзяць гэтыя 5 працэнтаў ад двухмільённага Мінска, то ўжо атрымліваецца 100 000 чалавек. І калі ўявіць, што ўсе гэтыя людзі рынуліся скупляць футры, то выстава ўвогуле была б знесена!*

*Зрэшты, нічога дзіўнага тут няма — попыт на футры толькі пацвярджае наяўнасць так званых высокіх дэцыльных каэфіцыентаў у краіне. (Для тых, хто не ў курсе: дэцыльны каэфіцыент — спосаб вымярэння няроўнасці ў прыбытках. Адносіны даходаў 10% самых багатых грамадзян і 10% самых бедных.) Не так даўно ў нас гэты каэфіцыент быў роўны 8, зараз, напэўна, нават больш, таму што ў апошні час мы сарамліва перасталі вымяраць гэты паказчык...*

*Калі развіваць тэму, то ніхто чамусьці сур'ёзна не паставіўся да таго, што Альберту Гору далі Нобелеўскую прэмію за барацьбу з глабальным пацяпленнем. Тыя, хто сёння купляе футра, мабыць, не чытаюць газеты і не сочаць за навінамі ў інтэрнэце. Увесь свет чакае пацяплення, а беларусы захутваюцца ў футра!*

*Асабіста я лічу, што купляць футра — гэта глупства. Справа ў тым, што за 4,5 тысячы долараў (прыкладна столькі каштуе норкавая прыгажосць) можна купіць патрыманы аўтамабіль, замест таго, каб апранаць “пантовае” і ездзіць у тралейбусе ці метро, як гэта часта робяць беларускія жанчыны. Гэта нейкая скажоная свядомасць! На мой погляд, дзяўчаты, якія купляюць куртачкі і аўтамабілі, паступаюць больш разумна. Навошта хадзіць у мароз па горадзе ў футры, калі можна ездзіць у цёплай машыне ў куртачцы? Наогул, добрай дзяўчыне і куртка зусім не патрэбна... Так што прыклады ажыятажнага попыту на футры сведчаць аб тым, што беларускае грамадства яшчэ адсталае, у нечым азіяцка-арыентаванае...*

*І потым, натуральныя футры — гэта ж антызвярыны падыход, “зялёных” з пульверызатарамі на такіх пакупніц няма!”*

## НЕ ВА ЎСІХ У КРАІНЕ КРЫЗІС

Пры гэтым Леанід Заіка на поўным сур'ёзе гаворыць пра тое, што апошнім часам даволі моцна кідаецца ў вочы падзел беларускага грамадства на багатых і бедных.

*— І гэта адна з палітычных траўм, нанесеная беларускаму народу за апошнія тры гады,* — адзначае эканаміст. — *Глядзіце: у мінулым годзе здарылася трохразовая дэвальвацыя, знізіўся ўзровень жыцця, але ў той жа час з'явілася неверагодная колькасць катэджаў і загарадных дамоў, якія растуць, як грыбы пасля дажджу. Я бачыў нядаўна аб'яву аб продажы катэджа ў Валяр'янах — за мільён трыста пяцьдзясят тысяч еўра (!). Гадоў дзесяць таму чалавек, які назваў бы такую цану за катэдж, адразу прыцягнуў бы да сябе ўвагу адпаведных службаў. Ім занялося б КДБ і асабіста Аляксандр Рыгоравіч. І запатрабавалі б тлумачэнняў: дзе чалавек узяў мільён долараў на будаўніцтва дома, каб потым яго прадаць за 1 350 000 еўра?! Вырасла не толькі нахабства ўладальнікаў такіх катэджаў, але і розніца паміж даходамі людзей. Вельмі шмат незаробленых грошай, дзякуючы расійскай нафце і набліжаным да яе і ўлады. Таму я думаю, што гэты дзіўны тэзіс — сацыяльна арыентаваная эканоміка — неўзабаве будзе раздражняць беларусаў.*

**— Як, зрэшты, і тыя абяцаныя ўсім 500 долараў, на якія сёння мала што купіш.**

*— Але кубачак кавы ўсё ж такі можна на іх купіць,* — усміхаецца Заіка. — *Дарэчы, вось нядаўна заходжу ў такое сярэдняе кафэ, гляджу, колькі каштуе кава — 24 тысячы. Тры долары! Я кажу: "Дзяўчаткі, вы ачмурэлі?! Ва ўсёй Еўропе кубак кавы каштуе адзін еўра!" А яны глядзяць на мяне сваімі блакітнымі вачыма...*

*Краіна развіваецца ў кірунку такога гаіцянскага сацыялізму... У гэтым таксама няма нічога дзіўнага. Некалькі гадоў назад я рабіў параўнанне па даходах ВУП на душу насельніцтва. Дык Беларусь была блізкая да Калумбіі, таму нас і ў Венесуэлу пацягнула...*

**МАРЫНА МІТ**

# СТАТЫСТЫКА: ЗМРОЧНАЯ ЦІ ВЯСЁЛКАВАЯ?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*



*Аўто — гэта яшчэ не значыць сярэдні клас*

Гэта значыць, па дадзеных НІСЭПД, «прышчэпка аптымізму» ў беларусаў значна меншая, чым у Белстата.

## ЧАМУ ТАК АДБЫЛОСЯ?

Доктар сацыялагічных навук Алег Манаеў не бярэцца каментаваць гэтыя лічбы і розніцу паміж лічбамі Белстата і НІСЭПД. «Вельмі шмат залежыць ад фармулёўкі пытання. Фармулёўка НІСЭПД не змянялася ўжо некалькі гадоў. Пытанне першае — «Як змянілася Ваша матэрыяльнае становішча за апошнія тры месяцы?», і другое пытанне — «Як зменіцца сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў бліжэйшыя гады?». З якой фармулёўкай пытанні задаваў Белстат, я не ведаю. Таму на дадзеныя Белстата я рэагаваць не магу «, — заявіў Манаеў.

У інструкцыі па арганізацыі і правядзенні выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак па ўзроўню жыцця, размешчанай на сайце Белстата, таксама нічога не гаворыцца пра фармулёўкі пытанняў. Аднак там пішацца, што «Абследаванне грунтуецца на непасрэдным апытанні членаў хатніх гаспадарак», і «апытальнік па ўмовах жыцця запаўняецца спецыялістамі, якія праводзяць абследаванне, са слоў апытаных членаў хатніх гаспадарак».

Варта адзначыць, што ў матэрыялах Белстата, размешчаных на сайце, няма вызначэння «сярэдняя сям'я» або «сярэдняе матэрыяльнае становішча сям'і».

## СЯРЭДНІ — ВЕЛЬМІ РОЗНЫ.

«Тут і цяпер» апытала некалькі сем'яў, і аказалася, што ўсе яны — сярэднія. Але гэта «сярэдняе» вельмі рознае.

Напрыклад, **Насця, спецыяліст кампаніі мабільнай сувязі і яе муж Глеб** — працаўнік сферы ІТ-тэхналогій. Сям'я ў іх, па іх меркаванні, «сярэдняя». «Мы не эканомім на бензіне, на машыне, наш сын вучыцца платна, перыядычна ёсць магчымасць ездзіць кудысьці адпачываць. У той жа час, гэта дасягаецца за кошт таго, што нейкія буйныя выдаткі пастаянна адкладаюцца. Напрыклад, той жа рамонт , які не зрухаецца ўжо тры гады», — распавяла Наста.

**Фрылансер Галіна**, жыве адна з дачкой. Узровень свайго матэрыяльнага становішча ацэньвае «крыху ніжэй сярэдняга». «На морах-акіянах, у прынцыпе, дазволіць адпачываць сабе магу. Але адпачынак бюджэтны і выдаткі на яго — гэта дзірка у сямейным бюджэце, якую потым даводзіцца латаць. Яшчэ ніжэй сярэдняга таму, што не атрымліваецца рабіць назапашвання на чорны дзень і ўсякія непрадбачаныя сітуацыі. Гэта значыць фактычна растрачваю ўсё, што зарабляю: на ежу, сродкі гігіены і касметыку, на вопратку, вучобу дзіцяці і на камуналку», — кажа Галя.

«Сярэдняе» матэрыяльнае становішча і ў сям'і **журналіста Сяргея**. «Так, можна сказаць, што ўзровень дастатку ў нас сярэдні. У прынцыпе, заробку на тое, каб пражыць на сярэднім узроўні, хапае. Але тут ёсць і спецыфіка працы. Журналіст, як правіла, не працуе толькі ў адным месцы. Напісаў на працы, напісаў у іншае месца, у трэцяе — адтуль атрымаў ганарары. У прынцыпе, пасля крызісу я нават стаў падшукваць падпрацоўку. Калі нешта прапануюць напісаць — не адмаўляюся, як правіла. Але што я заўважыў: змянілася структура таго, што мы возім з-за мяжы. Калі раней гэта былі толькі рэчы, якія там якасней і танней, і экзатычны алкаголь, то цяпер больш увагі надаем прадуктам. Жонка па працы часта ездзіць у Польшчу і Літву. Дзіцячыя рэчы, пераважна, купляем толькі там. Абутак — таксама там. Кавы нармальнай ў Беларусі няма, даўно ўжо возім з-за мяжы. У апошні час сталі прывозіць каўбасу, аліўкавы алей, цукеркі. Практычна перасталі купляць беларускую каўбасу, сасіскі і каўбаскі для смажання, — прасцей і танней купіць мяса на рынку».

Што тычыцца поглядаў на будучыню, то Наста і Глеб на будучыню «ніяк не глядзяць», і «калі нешта зменіцца — будзем прыстасоўвацца да таго, што будзе». Паколькі, як прызналася Наста, «мы зусім не адкладаем грошай на чорны дзень».

Галіна заяўляе, што ў будучыню «глядзіць з аптымізмам». Але аптымізм для яе — вельмі цікавы. «Спадзяюся, што ў 2013 годзе мае матэрыяльнае становішча кардынальна не зменіцца», — сказала яна.

Сяргей адзначыў, што «планаў на будучыню не мае», і мае намер разлічваць на ўласныя сілы.

Вось такія тры розныя сям'і — і ўсе «сярэднія"! Як тэмпература па бальніцы.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# ЗАЙЦАЎ WILL BE BACK?

**Былы супрацоўнік Камітэта дзяржаўнай бяспекі Валеры Костка лічыць, што самагубства падпалкоўніка КДБ Аляксандра Казака толькі нагода для адстаўкі старшыні гэтага ведамства Вадзіма Зайцава.**

## ЁСЦЬ ШЭРАГ І ІНШЫХ ПЫТАННЯЎ

Як паведамляе БелТА, апошні пазбавіўся сваёй пасады пасля нарады ў кіраўніка дзяржавы, на якой разглядаліся перспектывы і хібы ў працы Камітэта дзяржбяспекі.

На гэтай нарадзе дзяржаўны сакратар Рады Бяспекі Леанід Мальцаў адзначыў, што ў сваіх выступах генеральны пракурор і старшыня Следчага камітэта паставілі шэраг пытанняў. У прыватнасці, яны тычыліся апошніх падзей, звязаных з Камітэтам дзяржаўнай бяспекі. «Усім вядома пра самагубства падпалкоўніка КДБ Аляксандра Казака . Ёсць і шэраг іншых пытанняў, якія патрабуюць ўважлівага расследавання», — заявіў Леанід Мальцаў.

Таму Аляксандр Лукашэнка прыняў рашэнне вызваліць генерал-лейтэнанта




*Спецслужбы па-ранейшаму папярэджваюць…*

не можа вярнуцца на гэтую пасаду. Калі расследаванне пакажуць кампетэнтнасць яго і іншых службовых асоб, то па-за ўсялякімі сумневамі ён будзе вернуты

> “Я і раней гаварыў, што ўсе тыя, хто ідзе на высокія пасады ў нашай дзяржаве сутыкаюцца, па вялікаму рахунку з непростай дылемай: альбо выключна абараняць правы і інтарэсы простых грамадзян альбо бездакорна выконваць палітычныя заказы Сістэмы”.

Вадзіма Зайцава ад пасады старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі і залічыць яго ў распараджэнне старшыні КДБ.

Мальцаў сказаў вельмі цікавую рэч: «Выконваць абавязкі старшыні КДБ даручана мне. Але гэта не значыць, штоВадзім Зайцаў пасля завяршэння расследавання

на гэтую пасаду. Гэта зроблена для таго, каб расследаванне было праведзена максімальна аб'ектыўна, — удакладніў Леанід Мальцаў. — Расследаванне даручана праводзіць генеральнаму пракурору. Таксама да гэтай працы будзе падлучаны Следчы камітэт».

У свой час той жа Мальцаў 1 лістапада 1996 года скандальна быў вызвалены ад пасады міністра абароны за «праступак, які дыскрэдытуе вайсковае званнеа фіцэра (з'яўленне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане)». «П'янага» Мальцава нават паказвалі па беларускім тэлебачанні. Але тым не менш пазней ён вярнуўся ў вышэйшыя эшалоны ўлады. Праўда, не адразу.

У 1997 годзе Мальцаў становіцца першым намеснікам начальніка штабу па каардынацыі ваеннага супрацоўніцтва дзяржаў - удзельніц СНД (Масква).

## АЛЬБО ПРАВЫ АЛЬБО СІСТЭМА

Колькі спатрэбіцца часу для вяртання на палітычны Алімп Зайцаву, не ведае пэўна ніхто.

Але адно можна сказаць абсалютна дакладна – Вадзіма Зайцава лічаць чалавекам, блізка знаёмым з Віктарам Лукашэнкам. Таму можна з высокай ступенню верагоднасці меркаваць, што ў «апале» Зайцпў будзе нядоўга.

Іншага меркавання прытрамліваецца падпалкоўнік КДБ у запасе Валерый Костка: «Я і раней гаварыў, што ўсе тыя, хто ідзе на высокія пасады ў нашай дзяржаве сутыкаюцца, па вялікаму рахунку з непростай дылемай: альбо выключна абараняць правы і інтарэсы простых грамадзян альбо бездакорна выконваць палітычныя заказы Сістэмы. Мала хто з вышэйшага эшалону ўлады сыходзіў з яе без громкіх адставак са скандаламі. На мой розум, самагубства Аляксандра Казака было толькінагодай для адстаўкі Вадзіма Зайцава».

Мусім адзначыць, што менавіта пры апошнім рэалізоўваўся сцэнар жорсткага разгону дэманстрацыі 19 снежня 2010 года і дальнейшых пасадак апазіцыйных актывістаў.

**ВІКТАР АЛЯШКЕВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 15.11.12
Тыраж 299 экзэмпляраў